


Магілеўскі
# ВЫБАР
№ 11 (37) Снежань 2014 г.
Абласная Дэмакратычная Трыбуна


## ЛІНІЯ ФРОНТУ

### Аб тактыка-эканамічных хітрасцях магілёўска-шклоўскай вертыкалі

***“Некоторые должностные лица своими противоправными действиями наносят серьезный ущерб экономике и подрывают авторитет власти”, — заявіў А. Лукашэнка ў час даклада старшыні Гродненскага аблвыканкама аб перспектывах сацыяльна-эканамічнага развіцця вобласці.***

З вуснаў кіраўніка краіны прагучала незадаволенасць запавольваннем тэмпаў развіцця Гродненскай вобласці, а таксама пралікамі ў працы з падборам кіруючых кадраў у рэгіёне.

“Я уже неоднократно говорил, что это зло мы будем выжигать каленым железом. Здесь неприкасаемых нет и быть не может. Вы об этом знаете, это не новость”, — падкрэсліў ён у час працоўнай нарады ў г. Гродна 14 лістапада. “…Но что происходит на Гродненщине?”— задаўся ён пытаннем...

А на Гродзеншчыне, дзе зараз кіруе Уладзімір Краўцоў, які да лістапада 2013 г. працаваў у Магілёве, толькі за 9 месяцаў бягучага года раскрыта 69 злачынстваў карупцыйнай скіраванасці, здзейсненых асобамі, якія знаходзіліся на пасадах у органах улады і кіравання дзяржаўнымі ўстановамі, арганізацыямі і прадпрыемствамі.

А колькі ж іх засталося не раскрытымі?

Колькасны склад раскрытых злачынстваў можна смела лічыць нададводнай, бачнай часткай карупцыйнага айсбергу. Інфармацыя аб яго асноўнай, падводнай частцы, так і застанецца для грамадзян краіны цалкам недаступнай.

Падобнай была рэакцыя Лукашэнкі на выніку працоўнай паездкі і ў Магілёўскую вобласць 5 лістапада. Як ён адзначыў, яму паступаюць трывожныя сігналы па сітуацыі ў Магілёўскай вобласці, і гэта інфармацыя мае падцверджанне з незалежных крыніц. Відаць, Аляксандр Рыгоравіч усё ж звяртае ўвагу на інфармацыю пра сітуацыю ў вобласці, што змяшчаецца на старонках нешматлікіх незалежных друкаваных выданняў шэрагу рэгіёнаў Магілёўшчыны.

За 9 месяцаў бягучага года па ўсіх эканамічных паказчыках Магілёўская вобласць вельмі шмат змінусавала ў параўнанні з адпаведным перыядам 2013-га. Толькі аб’ём выпрацаванага валавога прадукту склаў усяго

## АДУСЮЛЬ ПАКРЫХУ

ОТОВСЮДУ ПОНЕМНОГУ

**З 1 студзеня 2015 спыняецца выпуск у абарачэнне банкнот Нацыянальнага банка Беларусі наміналам Br50 узору 2000 года, а таксама банкнот названага наміналу мадыфікацыі 2010 года. Такое рашэнне прынята пастановай праўлення Нацыянальнага банка зыходзячы з немэтазгоднасці далейшага выкарыстання названых банкнот у наяўным грашовым звароце і ў мэтах скарачэння дзяржаўных выдаткаў на іх выраб.**

**Больш за 900 млн. руб. вернуты ў бюджэт па выніках праверкі Камітэтам дзяржкантролю Магілёўскай вобласці дзейнасці Клімавіцкай перасоўнай механізаванай калоны №256. Гэтыя дзяржаўныя сродкі былі атрыманы прадпрыемствам незаконна - з прычыны завышэння кошту будаўнічых работ. Акрамя таго, выяўлены неэфектыўнае выкарыстанне дзяржаўнай маёмасці, шматлікія парушэнні пры вядзенні бухгалтарскага ўліку і інш. Па выніках праверкі да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнутыя прадпрыемства і 8 яго службовых асоб на агульную суму больш за 500 млн. руб.**

**На ўліку ў падатковых інспекцыях Магілёўскай вобласці па стане на 1 лістапада 2014 года зарэгістравана 24926 індывідуальных прадпрымальнікаў, якімі за 10 месяцаў бягучага года выплачана 328 млрд. руб. плацяжоў у бюджэт. У параўнанні з аналагічным перыядам 2013 г. паступлення ад індывідуальных прадпрымальнікаў павялічыліся на 57 млрд. руб. Па выніках праверак індывідуальных прадпрымальнікаў падатковымі органамі Магілёўскай вобласці дадатковаданалічана ў бюджэт 5 млрд. 554 млн.. руб. Падатковаму кантролю падвергнута 1572 індывідуальных прадпрымальнікаў. Парушэнні заканадаўства аб падатках і прадпрымальніцтве ўстаноўлены ў 1564 плацельшчыкаў, што складае 99,5% ад колькасці правераных.**

**У Шклоўскім раёне правялі папярэднія падлікі непрацуючых жыхароў, якія не плацяць падаткі ў бюджэт, але карыстаюцца бясплатнымі медыцынай, адукацыяй і інш. Пракурор Шклоўскага раёна Д. Лянчэўскі прапанаваў, каб зацікаўленыя службы да канца года сабралі дармаедаў на саветах грамадскіх пунктаў аховы правапарадку пры сельвыканкамах і разгледзелі варыянты іх працаўладкавання. Асобам, якія стаяць на прафілактычным уліку ў РАУС, з 1 снежня 2014 па 28 лютага 2015 года ў крамах раёна забароняць прадаваць алкаголь і піва. Механізм працы гэтай забароны не ўдакладняецца.**

*Падрыхтаваў Антон ДУБАЛОМАЎ.*

# ЛІНІЯ ФРОНТУ

96,8%. Экспарт тавараў — 94%. І гэтак далей.

"Я сквозь пальцы не могу смотреть на такое положение дел в области, — падкрэсліў А. Лукашэнка. — Должны быть конкретные результаты. Если их нет, тогда надо думать, кто будет давать эти результаты".

У час нарады прагучалі меркаванні як з боку кантралюючых структур, так і ад кіраўніцтва вобласці, Магілёва, Магілёўскага раёна адносна прычын нізкіх тэмпаў развіцця рэгіёна. На думку большасці прысутных на нарадзе, у вобласці не ўдалося выпрацаваць сістэмны падыход падбору кадраў.

У сувязі з гэтым А.Лукашэнка прыняў рашэнне прадаставіць старшыні Магілёўскага аблвыканкама Пятру Рудніку права да 15 лістапада прымаць любыя кадравыя рашэнні ў рэгіёне.

Цэлы тыдзень спадар Руднік думаў як распарадзіцца прадастаўленым яму правам і толькі 13 лістапада скарыстаўся такой магчымасцю. У гэты дзень ён знайшоў трох "ахвяр", звольніўшы з пасад генеральных дырэктараў ТАА "Папяровая фабрыка "Спартак" у Шклове, ТАА "Магілёўскі металургічны завод", ТАА "Бабруйскcельмаш". Прашарсціць па вертыкалі абл-, гар-, райвыканкамы, дзе заселі асноўныя віноўнікі зніжэння эканамічных паказчыкаў вобласці, у яго, відаць, зноўку духу не хапіла.

Так склалася, што ў гэты ж дзень, 13 лістапада, я атрымаў ліст № 2182 ад 12.11.2014 г. з Магілёўскага аблвыканкама за подпісам першага намесніка старшыні аблвыканкама А.І.Чыкіды. У гэтым адказе на мой зварот ад імя грамадзянскай ініцыятывы "Шклоўскі Магістрат" у Адміністрацыю прэзідэнта аб хібах у эканоміцы і сацыяльнай сферы Шклоўскага раёна, спадар Чыкіда сцвярджае, што Магілёўскім аблвыканкамам і Шклоўскім райвыканкамам "праводзяцца неабходныя мерапрыемствы па забяспячэнню належнага ўзроўню сацыяльна-эканамічнага жыцця насельніцтва раёна і падтрыманню стабільнасці ў эканоміцы рэгіёна. Прамысловыя, сельскагаспадарчыя прадпрыемствы і аб'екты сацыяльнай сферы працуюць у адпаведным рэжыме".

Асноўная прапанова грамадзянскай ініцыятывы аб вылучэнні на пасаду старшыні Шклоўскага райвыканкама кандыдата эканамічных навук Пятра Мігурскага засталася па-за ўвагай чыноўнікаў.




Па сведчаннях першага намесніка старшыні аблвыканкаму, "у раёне ўсе падзеі адбываюцца ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствм Рэспублікі Беларусь, у тым ліку падбор і назначэнне кадраў".

Чытаючы адказ спадара Чыкіды, складваецца ўражанне, што ён або адсутнічаў на працоўнай нарадзе ў Магілёве 5 лістапада пад старшынствам кіраўніка краіны і не чытаў выніковых матэрыялаў нарады, або праспаў увесь час.

А можа быць лідэрства Шклоўскага раёна ў краіне па "мінусу" надояў малака на адну карову за 2013 год - гэта тактыка-эканамічная хітрасць магілёўска-шклоўскай вертыкалі?

А рэгулярныя крымінальныя справы, што ўзбуджаюцца на намеснікаў старшыні Шклоўскага райвыканкама, кіраўнікоў прадпрыемстваў раёна за злоўжыванне службовым становішчам, і агульны, раскрыты сілавымі структурамі, карупцыйны складнік за чатыры апошнія гады каля 60 млрд. руб. — гэта адпаведны, запланаваны рэжым працы прадпрыемстваў і ўстаноў раёна?

Своеасаблівыя магілёўска-шклоўскія хітрасці ў наладжванні вытворчасці, дзейнасці ўстаноў і разнастайных арганізацый "паспяхова" былі перанесены і спадаром Краўцовым на Гродзеншчыну. Менш года яму хапіла, каб па выніках пераўзыйсці сваіх былых калег па працы ў Магілёўскім аблвыканкаме.

Ну што можна сказаць аб такой дзейнасці прадстаўнікоў магілёўска-шклоўскай вертыкалі, што працуюць на разнастайных пасадах па ўсёй краіне? Якую карысць для беларускага народа яны прыносяць гэткай сваёй працай?

Каб вызначыць патрэбнасці для краіны такіх людзей і пасад, што яны займаюць, прапаную правесці ў Магілёўскай вобласці невялікі эксперымент.

Трэба на адзін месяц адправіць у адпачынак сем службовых асобаў аблвыканкама: старшыню, яго намеснікаў і кіруючага справамі. А таксама — апарат абласнога Савета дэпутатаў. А разам з імі ўвесь абслугоўваючы персанал, з пастаноўкай на прыкол службовых аўтамабіляў, апячатваннем і абясточваннем кабінетаў, зняццём міліцэйскай аховы. Праз месяц, па выніках працы эканомікі вобласці, зрабіць высновы. Калі сітуацыя ў вобласці памяняецца да лепшага, або застанецца на тым жа ўзроўні, можна лічыць эксперымент паспяховым і распаўсюджваць яго на іншыя рэгіёны і ўзроўні вертыкалі. Я ўпэўнены ў паспяховасці падобнага эксперымента.



*Рыгор* ***КАСТУСЁЎ,***
наместнік старшыні Партыі "БНФ".

# НУ І ХТО Ў НАС ЧЭСНЫ?

Колькі разоў нашыя слаўныя чыноўнікі і доблесныя “байцы нябачнага фронту” казалі дрэнныя словы пра незалежную прэсу Магілёўскай вобласці і, у прыватнасці, пра газету “Магілёўскі Выбар”, - пра тое, што “злосныя найміты праклятых буржуінаў” спрэс займаюцца “очернительством” і не бачаць відавочных поспехаў і дасягненняў. А аказалася, што гэтыя газеты якраз праўду і пішуць. Пры чым, высветлілася гэта, зноў жа, не пасля словаў якога-небудзь “ворага-БНФаўца” тыпу майго сябра Рыгора Кастусёва, а пасля той ацэнкі працы чыноўнікаў Магілёўскай вобласці, якую даў наш нязменны і вельмі любімы гэтымі самымі чыноўнікамі кіраўнік краіны.

А сказаў ён пры наведванні Магілёўскай вобласці 5 лістапада менавіта тое, пра што неаднаразова пісаў той жа “Магілёўскі выбар” і пра што пераважна маўчаць дзяржаўныя газеты нашай вобласці (цытую на мове арыгінала): ***"Стиль работы, вы сами это подтвердили, - никчемный"*, - сказал Александр Лукашенко, обращаясь к губернатору Могилевской области Петру Руднику. - *Мы в будущем году будем сдавать людям экзамен. А у вас люди зарплату не получают, а если и получают - мизерную, у вас порядка нет, всё застыло в прошлом веке, нет движения, и я это говорю не потому, что придираюсь к вам. Могилев - худший город в стране из областных центров".***

Можна нічога і не дадаваць, здаецца. Праўда, хацелася б задаць Рыгоравічу пытанне: а куды ж глядзеў на ўвесь гэты “завал” ён сам і яго наглядчык за вобласцю Генадзь Лаўранкоў, які, відаць па ўсім, і заваліў на Магілёўшчыне ўсю працу з кадрамі (пра што таксама неаднаразова пісала незалежная маланакладная прэса)? Калі не ведаюць самі, што зараз рабіць для выпраўлення сітуацыі, то прапанавалі б свайму даўняму знаёмаму па Шклову Рыгору Кастусёву пасаду старшыні аблвыканкама. Думаю, ён бы разабраўся.

Таксама азнаёмлю паважаных чытачоў з яшчэ адной навіной, якая з’явілася на шэрагу дзяржаўных інтэрнэт-сайтаў і вельмі хутка знікла. Інфармацыйнае агенцтва “Магілёўскія ведамасці” 3 лістапада у матэрыяле “В Могилевской области выявили новые случаи АЧС” паведаміла: *“Заседание штаба по предупреждению и распространению африканской чумы свиней прошло в Чаусском районе. Это связано с новыми случаями заболевания АЧС, выявленными в Круглом, Славгородском, Могилевском, Быховском, Чериковском и Чаусском районах”.*

*"С начала уборки зерновых трупы диких свиней обнаружены практически во всех районах области. В этой связи необходимо принять исчерпывающие меры по недопущению новых случаев возникновения очагов АЧС",* - отметил первый зампред Чаусского райисполкома, начальник управления сельского хозяйства и продовольствия Сергей Бичуков”.

Аднак, як усім вядома, што *“АЧС у Магілёўскай вобласці няма”,* таму навіну хуценька прыбралі. Мне, праўда, не зусім зразумела, ад каго нашыя слаўныя чыноўнікі яе хаваюць – ужо браты-расіяне знайшлі геном АЧС у прадукцыі амаль усіх мясаперапрацоўчых прадпрыемстваў Магілёўскай вобласці, ужо практычна ”пасцялілі” увесь агракомплекс “Светлы” Чэрыкаўскага раёна і палову “Усходу”, а нас усё працягваюць лічыць за дурняў.

Нагадаю, што чытачы “Магілёўскага Выбара” пра выпадкі АЧС на Магілёўшчыне даведаліся яшчэ некалькі месяцаў таму. А вось чэсныя ж газеты па-ранейшаму працягваюць сцвярджаць, што ў нас гэтай трасцы і блізка няма. Зразумела ж, праўду пішуць …

***Іван БАРЫСАЎ.***

## *Голас "Падворка"*

**Мясцовыя ўлады не прымаюць меры для эфектыўнага вырашэння праблем асабістых гаспадарак, што вядзе да заняпаду эканомік цэлых рэгіёнаў. Пра гэта 28 лістапада ў Магілёве заявілі сябры грамадзянскай ініцыятывы «Падворак» на паседжанні круглага стала «Асабістыя падсобныя гаспадаркі і мясцовая ўлада». Раней сельскія грамадскія актывісты прапаноўвалі ўладам распрацаваць дзейсную праграму развіцця асабістых падсобных гаспадарак, удасканаліць сістэму закупак і правілы дазволу гандлю на рынках.**

***«Мы звярнуліся да ўладаў і ўбачылі іх рэакцыю, з якой мы зрабілі выснову, што з уладай можна знайсці агульную мову, што яны таксама заклапочаныя тымі ж праблемамі, але бачаць іх зусім па-іншаму»,* - заявіла старшыня ініцыятывы, ўладальніца асабістай падсобнай гаспадаркі з Круглянскага раёна Зінаіда Мялешчанка. Паводле яе слоў, з-за праблем на вёсцы людзі ўсё больш адмаўляюцца ад вядзення падсобнай гаспадаркі. *«Зараз там, дзе была зямля падсобных гаспадарак, засталіся два-тры агароды. Гэта вельмі вялікая страта - страта зацікаўленасці чалавека сваёй працай»,* - лічыць Мялешчанка. Яна адзначыла, што праблемы ў людзей паўсталі з-за адсутнасці транспарту, сродкаў для апрацоўкі зямлі, а дзяржава своечасова не звярнула на гэта ўвагу. У падсобнай жывёлагадоўлі таксама шмат праблем. У прыватнасці, у пачатку 2000-х гадоў у Круглянскім раёне ў падсобных гаспадарках было больш 2.000 кароў, а цяпер ледзь набярэцца 80. Сур'ёзнай праблемай у прыватных свінаводаў застаецца праблема забою свіней: забіваць жывёлу неабходна на спецыяльных бойнях, якія абслугоўваюць адзін-два раёны, і за гэта трэба заплаціць каля мільёна рублёў. У Хоцімскім раёне свіней забіваюць самастойна, а потым тушы вывозяць у Расію, пры гэтым на мясцовым рынку зачынілі павільён па продажы мяса і мясапрадуктаў.**

**Грамадзянская ініцыятыва «Падворак» чакае ад органаў улады крокаў насустрач і спадзяецца на плённае супрацоўніцтва.**

***Падрыхтаваў Міхась БАРАЗНА.***

Паводле http://naviny.by

# Дабрыня ходзіць побач, але мы не заўважаем яе

***Самыя лепшыя і самыя прыгожыя рэчы ў гэтым свеце нельга ўбачыць ці памацаць. Яы павінны адчувацца сэрцам!***

Няглядзячы на тое, што беларускае грамадства перажывае не лепшыя часы, людзі нашай краіны ўсё ж такі не страцілі сваёй дабрыні. Мо, хтосьці са мною не пагадзіцца? Тады вось вам яскравыя прыклады, жывым сведкам якіх з'яўляюся я асабіста. Тутацькі яшчэ ёсць адзін нюанс: гэтыя падзеі (ці выпадкі) адбываліся ў адзін час, што дае мне падставу меркаваць аб тым, што людзей чулівых і добрых у нас нямала. Таму не напісаць аб дабрыні людской і іх неардынарных учынках я проста не маю маральнага права.




## ПАДЗЕЯ ПЕРШАЯ

Зусім нядаўна я апынуўся на аўтобусным прыпынку каля мінскага Палаца культуры "Сукно". Стрэлкі гадзінніка на цыферблаце пераскочылі лічбу восем у канцы дня. І хаця сонца схавалася за гарызонт даўным-даўно, кастрычніцкі вечар выдаўся цёплым і прыемна-лагодным. Вулічныя ліхтары адкідвалі сваё святло з вялікаю неахвотаю. На прыпынку была поўная пустэча і - ніякай мітусні, а таму ў прыцемках адчувалася нейкая загадкавая цішыня і ўтульнасць…

Ведаючы, што аўтобусы ды тралейбусы зараз у Мінску ходзяць марудна (ня тое, што раней), я вырашыў падыйсці да слупа з таблічкаю, які стаяў на адпаведнай адлегласці ад месца прыпынку грамадскага транспарту, каб паглядзець ітэрвал руху пасажырскай тэхнікі. Слабыя промні вулічнага свяцільніка амаль не даходзілі да таго месца, дзе можна было б штосьці прачытаць, і я ў разгубленасці павярнуўся назад, у напрамку да скамейкі на пасадачнай пляцоўцы. І толькі я зрабіў некалькі крокаў, як за маёй спіною пачуўся дзіцячы голас:

– Ідземце, мы Вас падвязем.

– А куды вы мяне падвязеце? - са здзіўленнем пытаюся я, павярнуўшыся тварам да падлетка, які нечакана з'явіўся перада мною.

– А куды Вам трэба? – у сваю чаргу запытаў хлопчык.

– А мне трэба да прыпынку мятро "Пушкінская", – выдаў я сваю "запаветную мару" ветліваму незнаёмцу.

– Падвязем і туды, – скончыў дыялог падлетак.

Крыху далей слупа з раскладам транспартнага руху па горадзе стаяла легкавое аўто накшталт седана. Мой непаўналетні незнаёмец, годзікаў так дванаццаці, адчыняе для сябе заднюю левую дзверку легкавіка, я – правую заднюю. За "баранкай" сядзіць маладая, прыемная, я б нават сказаў – прывабная, кабета. Побач з ёю – малады чалавек. Наколькі мне падказвала мая логіка, гэта, хутчэй за ўсё, была сямья. Прыгажуня - кіроўца аўто, павярнула да мяне галаву градусаў так больш за сотню ды пацікавілася, куды мне патрэбна ехаць.

– Да станцыі метро "Пушкінская", – уражаны незвычайнай сітуацыяй ды цёплымі абставінамі, адказваю камунікабельнай незнаёмцы.

Аўто кранулася. Язды было на два прыпынку. Маладзіца за рулём пацікавілася, адкуль я.

– З Чэрыкава. – не замарудзіўся я з адказам.

– А якім чынам Вы апынуліся тутацькі? – адарваўшы на секунду вочы ад дарогі, каб акінуць мяне кароткім позіркам, задала наступнае пытаньне "возніца".

– Быў на З'едзе БНФ. Так што Вы вязеце" фашыста", – пашуткаваў я. На што мая суразмоўца адказала накшталт таго, што ўсе гэтыя "фашысты" добрыя і прыемныя людзі…

Між іншым, аўто набліжалася ўжо да патрэбнай мне астаноўкі. Легкавік стаў збаўляць ход. Я адчуваў, што грошы за аказаную мне паслугу прапаноўваць зусім некарэктна, і сваімі дзеяннямі я мог толькі збянтэжыць незнаёмых мне добрых людзей. Таму я пачаў здалёк: маўляў, "дзякуй" у кішэню не пакладзеш… Я не паспеў давесці ўслых думку да лагічнага канца словамі "але вялікі дзякуй!", як гаспадыня аўто хуценька перабіла мяне на палове сказу і засакатала:

– Не-не-не! Ніякіх грошай!

Мне нічога больш не заставалася рабіць, як шчыра падзякаваць людзям за іх увагу, дабрыню і за чуллівыя адносіны да мяне. На развітанне я пажадаў ім сямейнага дабрабыту і ўсяго самага ў іх жыцці найлепшага. На гэтым мы і развіталіся…

## ПАДЗЕЯ ДРУГАЯ

У той самы прамежак часу, калі гасцяваў у МІнску, я не мог набыць газету "Четверг". Не ве-

даю, з якой прычыны яе не прадаюць у шапіках сталіцы, але ў нашым абласным цэнтры - горадзе Магілёве ды і ў райцэнтрах гэты друкаваны сродак можна набыць без усялякіх праблем. Выходзіць газета раз на тыдзень. Я імкнуся не прапусціць міма сябе аніводнага нумара. А для таго, каб была прычына лішні раз пабыць у цэнтры свайго любімага старадаўняга горада, адмыслова падпіску на выданне не раблю. Такім чынам ёсць нагода спалучаць прыемнае з карысным: і па гораду прайсці, і сродак інфармацыі набыць…

Паблукаўшы па Мінску ў пошуках чарговага нумара выдання, што атрымалася для мяне безвыніковым мерапрыемствам, я вырашыў звярнуцца за дапамогай аб набыцці “духоўнай ежы” да Алы Казючыц – рэдактара выдання (нумар тэлефона рэдакцыі ў мяне заўжды з сабою). Просьба мая заключалася ў тым, каб яна пасадзейнічала мне аб набыцці ў шапіку майго роднага Чэрыкава чарговы нумар газеты. Бо да таго часу, калі я з’яўлюся ў сваіх пенатах, нерэалізаваныя нумары ужо будуць адсутнічаць. Іх некуды здаюць. Куды здаюць, не ведаю. Галоўнае, што ў продажы іх не будзе. Адказ я атрымаў неверагодны. Ала Геранімаўна паведала мне, што пасадзейнічаць аб тым, каб для мяне аставілі газету, яна не можа, але паабяцала сама выслаць патрэбны мне нумар на хатнюю адрэсу па пошце і запісала мае каардынаты.

І што вы думаеце? Ды навошта вам думаць! Я сам адкажу, каб не марудзіць вам галаву. З’яўляюся я у сваім пад’ездзе, гляджу – а ў паштовай скрыні ляжыць вялізны пакет!…

Тут трэба зрабіць акцэнт на тую акалічнасць, што ні я не ведаю рэдактара “Четверга”, ні яна мяне і ў вочы ніводнага разу ня бачыла (!!!).

І што мне сказаць нашаму паважанаму чытачу на ўсё гэта? А тое і скажу, што ёсць яшчэ ЛЮДЗІ і ў наш час! Што дабрыня ходзіць побач, а мы яе і не заўважаем!

*Сямён ПАНІЗОЎЦАЎ.*

# Министр МВД Игорь ШУНЕВИЧ - о проекте закона «О борьбе с коррупцией»



— Среди наиболее существенных новаций законопроекта - введение механизма обращения в доход государства незаконного обогащения, полученного государственным должностным лицом, и запрета повторного приема на госслужбу тех, кто ранее был уволен с нее по дискредитирующим обстоятельствам. Также предусматривается лишение права на пенсионное обеспечение в соответствии с Законом "О государственной службе в Республике Беларусь" и совершенствование порядка декларирования доходов и имущества должностных лиц, занимающих ответственное положение, и лиц, поступивших на государственную службу путем избрания.

— За январь-сентябрь 2014 года в судах рассмотрено свыше 900 коррупционных преступлений, около 80% из них выявили органы внутренних дел. Наибольшее количество подобных злодеяний зафиксировано в сферах здравоохранения, госуправления, промышленности и строительства.

— Первоочередная задача - сформировать у граждан нетерпимость к ржавчине, разъедающей общество. Информация о врачах, преподавателях, чиновниках среднего звена, готовых "решать вопросы", передается по сарафанному радио, и в подавляющем большинстве случаев люди предпочитают не сообщать об этом в правоохранительные органы. Схожая ситуация и в сфере "деловой" коррупции, когда вышестоящий руководитель настоятельно "рекомендует" заключать сделки с определенными субъектами хозяйствования, а подчиненный молча это выполняет, даже понимая, что и цена завышена, и качество ниже среднего, и обязательства в полном объеме не выполнены, и ничего кроме убытков эти сделки не принесут. В перспективе оправданным видится установление обязанности должностных лиц информировать правоохранительные органы о попытках склонения их к совершению коррупционных правонарушений.

— В статье 39 законопроекта говорится, что сообщившему о факте правонарушения, связанного с коррупцией, или иным образом способствующему выявлению коррупции гарантируется применение мер по обеспечению. При наличии оснований к данному лицу могут быть применены такие меры по обеспечению безопасности, как неразглашение сведений о личности, освобождение от явки на судебное заседание, закрытое судебное заседание, личная охрана, охрана жилища и имущества, изменение паспортных данных и замена документов. Кроме того, может допускаться использование технических средств контроля, прослушивание переговоров, ведущихся с использованием технических средств связи, и иных переговоров, запрет на выдачу сведений.

http://www.belta.by

**В ЧЕРИКОВЕ КГБ ЗАДЕРЖАЛ НАЧАЛЬНИКА ПРЕДПРИЯТИЯ**

**Начальник коммунального унитарного предприятия «Чериковская ПМК-280» задержан по подозрению в коррупционном преступлении. Информацию о задержании подтвердили в пресс-службе КГБ. Подозреваемый в коррупционном преступлении был взят с поличным. В отношении него избрана мера пресечения — содержание под стражей. В интересах расследования дополнительная информация по данному делу пока не распространяется.**

# У пошуках дармаедаў

**80 тысяч чалавек — такі поўны спіс «дармаедаў» у Магілёўскай вобласці, Такая лічба была агучана на пашыранай нарадзе ў Магілёўскім аблвыканкаме. Але, як там адзначаюць, у ходзе больш падрабязнага вывучэння звестак гэтая лічба можа скараціцца. Разам з тым, у кіраўніцтве Магілёўскай вобласці чакаюць прапаноў ад раённых уладаў адносна ўключэння непрацуючых грамадзян у працоўную дзейнасць.**

**Нагадаем, МУС Беларусі прапанавала ў дачыненні «дармаедаў» ўвесці асаблівы від пакарання. За адмову працаваць іх хочуць штрафаваць ці нават арыштоўваць.**

## АСІПОВІЦКІ РАЁН

У Асіповіцкім раёне створана працоўная група для актывізацыі працы па правядзенню маніторынгу па выяўленню незанятага насельніцтва з складаннем адпаведнага спіска. Група створаная "у мэтах выканання патрабаванняў Главы дзяржавы па прыняццю жорсткіх мераў па выкараненню ўтрыманства і дармаедства, рэалізацыі нормаў артыкула 56 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, прадугледжваючай абавязак грамадзян прымаць удзел у фінансаванні дзяржаўных расходаў", паведамляе інтэрнэт-сайт газеты "Асіповіцкі край".

Першае пасяджэнне групы, якую ўзначаліў намеснік старшыні Асіповіцкага райвыканкама Аляксандр Шаўлюга, адбылося 11 лістапада. Для забеспячэння працы групы будуць прыцягвацца сельсаветы, органы тэрытарыяльнага грамадскага самакіравання, суб'екты прафілактыкі і г. д.

Газета "Асіповіцкі край" адзначае, што *"Время «халявы» для тех, кто не привык обременять себя общественно полезным трудом, уходит в прошлое: Беларусь первой на постсоветском пространстве берётся за остросоциальную проблему тунеядства… Вакансий рабочих специальностей на Осиповщине предостаточно — более трехсот, и не желающие честно работать земляки должны задуматься, стоит ли играть с огнем. Звоночек для них уже прозвучал".*

Інтэрнэт-сайт Міністэрства працы і сацыяльнай абароны насельніцтва паведамляе, што па стане на 19 лістапада ў Асіповіцкім раёне маецца 81 вольная вакансія з 252 вольнымі працоўнымі месцамі.

Між тым, згодна інфармацыі газеты "Магілёўскі Выбар", у Асіповіцкім раёне кожная сёмая арганізацыя стратная, сума стратаў за дзевяць месяцаў 2014 года ўжо перавысіла 300 мільёнаў рублёў. У раёне не выконваецца заданне па тэмпах росту заработнай платы, маюць месца выпадкі затрымкі своечасовай выплаты заробкаў.



Нагадаем таксама, што згодна артыкула 41 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь у нашай краіне *"Прымусовая праца забараняецца, акрамя работы або службы, якая вызначаецца прыгаворам суда або ў адпаведнасці з законам аб надзвычайным і ваенным становішчы".*

## КРУГЛЯНСКІ РАЁН

У сярэдзіне лістапада ў памяшканні кабінета старшыні Круглянскага раённага Савета дэпутатаў Валерыя Ярковіча адбыўся круглы стол, прысвечаны вырашэнню пытання *"па выяўленні ўтрыманства і дармаедства".* Як паведаміла раённая газета "Сельскае жыццё", удзел у круглым стале прынялі старшыні сельскіх Саветаў, прадстаўнікі праваахоўных органаў, а таксама начальнік упраўлення па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Круглянскага райвыканкама Галіна Мазок. Падчас круглага стала вырашалася пытанне аб прыцягненні ў эканоміку раёна незанятага насельніцтва, якое пражывае на тэрыторыі сельскіх Саветаў Круглянскага раёна. Для дасягнення гэтай мэты было вырашана аб'яднаць высілкі ўчастковых РАУС, старает вёсак і спецыялістаў філіялаў Цэнтра сацыяльнай абароны насельніцтва ў населеных пунктах. Таксама будзе ўзмоцнены і "без гэтага строгі комплексны падыход" з боку ўсіх зацікаўленых структур па выяўленні грамадзян, якія вярнуліся з месцаў пазбаўлення волі, і асоб, якія вядуць асацыяльны лад жыцця.

Грамадская актывістка з Круглага Зінаіда Мілешчанка кажа, што ініцыятыва ўладаў Круглянскага раёна аб прыцягненні да працы так званых "дармаедаў" проста бяздумна паўтарае кіруючыя ўказанні вышэйстаячых уладных структур.

***"Мяне цікавіць, дзе ж будуць працаваць прыцягнутыя да працы ў прымусовым парадку так званыя "дармаеды", - кажа Зінаіда Мілешчанка. – У Круглянскім раёне не засталася вытворчасцяў (яны былі ліквідаваны чыноўнікамі), якія б апраўдвалі затраты на такую вось прымусовую працу. Калі гэтых людзей накіруюць у ЖКГ, то новаўвядзенне будзе датычыцца ўсіх іншых грамадзянаў, у тым ліку і***

***мяне, бо ўсе мы будзем аплочваць дадзеных дворнікаў і прыбіральшчыц праз падвышэнне коштаў на жыллёва-камунальныя паслугі. У Круглым, як і ў іншых маленькіх гарадах і пасёлках, існуе страшэнны дэфіцыт працоўных месцаў, людзям проста няма куды ўладкавацца на працу, існуе вялікае прыхаванае беспрацоўе - калі людзі замест сваёй асноўнай дзейнасці мятуць вуліцы і высякаюць кусты. Я сама на працягу шэрагу гадоў, пакуль не стала атрымліваць пенсію, за свой удзел у дзейнасці апазіцыйнай палітычнай партыі была звольнена з працы і не магла нікуды ўладкавацца нават дворнікам, выжывала толькі за кошт вялікай асабістай падсобнай гаспадаркі. У Круглянскім раёне колькасць насельніцтва і колькасць працоўных месцаў пастаянна скарачаецца. Расце толькі колькасць чыноўнікаў".***

**Па дадзеных упраўлення па працы, занятасці і сацыяльнай абароны Круглянскага райвыканкама,па стане на 1 верасня 2014 г. ў эканоміцы раёна занята 6017 чалавек, афіцыйна на ўліку стаіць 18 беспрацоўных. Між тым у цэлым па Круглянскім раёне эканамічна неактыўнае насельніцтва з ліку людзей працаздольнага ўзросту складае каля 1859 чалавек. Згодна спецыялістаў упраўлення, у раёне існуе каля ста вольных працоўных вакансій. Згодна ж дадзеных Міністэрства працы і сацыяльнай абароны РБ (на момант падрыхтоўкі матэрыяла да друку) у Круглянскім раёне налічвалася 22 незанятыя вакансіі з 74 вольнымі месцамі.**

Мне вельмі цікава, куды ж круглянскія ўлады ўладкуюць на працу паўтары тысячы чалавек (я адкінуў з агульнай колькасці "неактыўных" магчымых хатніх гаспадынь і г. д.), калі гэтыя людзі сапраўды захочуць перастаць быць "дармаедамі" і паспрабуюць працаўладкавацца ў Круглянскім раёне?

Думаю, для нашых слаўных чыноўнікаў даўно не з'яўляецца сакрэтам, што не ад добрага жыцця людзі вымушаны зарабляць сабе на жыццё ў Расіі і на розных неафіцыйных працах Асноўнай прычынай гэтага з'яўляецца якраз дзейнасць нашых мудрых кіраўнікоў, дзякуючы якой простым людзям знайсці нейкую працу з годным заробкам у сельскіх раёнах вельмі цяжка. Шмат якія прадпрыемствы пазачыняліся – у тым жа Круглым за апошнія гады перасталі працаваць льнозавод, маслазавод, хлебзавод, райспажыўсаюз, сельгасхімія, Ракушыцкая птушкафабрыка, цагляны завод, Круглянская школа-інтэрнат, рэарганізаваны шэраг калгасаў і саўгасаў. Фактычна адзінае прадпрыемства ў райцэнтры, якое стабільна працуе - гэта мясцовае будаўнічае ПМК-266. Аднак і там працаўнікі скардзяцца, што апошнім часам значна знізіліся заробкі.

Што ж тычыцца сапраўдных лайдакоў, якія праводзяць большую частку свайго жыцця ў пошуках "зялёнага змея", то якая карысць будзе ад іх працаўладкавання? Што, мудрыя чыноўнікі не разумеюць, колькі і як яны напрацуюць? Калі не разумеюць, хай запытаюцца ў кіраўнікоў прадпрыемстваў - як тыя мучаюцца з так званымі абавязанымі асобамі і ў якую капейчыну абыходзіцца такая вось прымусовая праца. Міліцыянера з аўтаматам да кожнага не прыставіш. Ды і міліцыянеру гэтаму таксама трэба плаціць заробак (дарэчы, нашмат больш вялікі, да таго ж яшчэ і з дзяржаўнага бюджэту).

Я вельмі рады за нашых чыноўнікаў і іх блізкіх – для сябе гэтыя людзі месцы з годнымі заробкамі знаходзяць без асаблівых праблем. З вялікай цікавасцю назіраю, як плодзяцца за бюджэтны кошт у нашым рэгіёне разнастайныя кіруючыя структуры, і як ствараюцца ў гэтых структурах працоўныя месцы для людзей з знаёмымі прозвішчамі. Навошта гэта робіцца – пытанне рытарычнае. Як і тое, навошта захоўваць шматлікую высокааплатную "вертыкаль" улады і праваахоўных органаў у некаторых раёнах Магілёўскай вобласці, насельніцтва ў якіх менш, чым у асобных сельсаветах Мінскай, Брэсцкай і Гродненскай…

Можа, не трэба шукаць сякеру пад лаўкай з выяўленнем "дармаедаў", а лепш звярнуць увагу на гэтыя раёны? І бюджэтныя выдаткі адразу скароцяцца вельмі значна…

*Барыс ВЫРВІЧ.*

## ГЕНПРОКУРАТУРА: ОРГАНЫ ВЛАСТИ НЕ ХОТЯТ БОРОТЬСЯ С КОРРУПЦИЕЙ

**Работа антикоррупционных комиссий в облисполкомах и министерствах ведется неудовлетворительно. Об этом сообщил журналистам генеральный прокурор Беларуси Александр Конюк. *"Борьба с коррупцией ведется постоянно. Но вся проблема в том, что правоохранительные органы, как правило, работают по факту. Задача же состоит в том, чтобы профилактировать коррупционные преступления. Это основная задача на сегодня"*, - заявил Конюк.**

**По его словам, органами прокуратуры проведена проверка деятельности антикоррупционных комиссий в облисполкомах, в министерствах. В итоге был сделан вывод: *"Работа ведется неудовлетворительно"*.**

**Генпрокурор добавил, что на сегодняшний день есть все необходимые правовые формы для эффективной борьбы с коррупцией. *"Выявляемость и раскрываемость у нас хорошие. Но, повторюсь, профилактика слабая"*, - отметил глава надзорного органа.**

## БЫХОВСКИЙ ЧИНОВНИК ПОЛУЧИЛ ЧЕТЫРЕ ГОДА

**Бывший заместитель председателя Быховского райисполкома получил 4 года колонии усиленного режима. Об этом сообщили в пресс-службе Верховного суда.**

***"Судом Чаусского района постановлен приговор по уголовному делу по обвинению бывшего заместителя председателя Быховского райисполкома в совершении преступления, предусмотренного ч.3 ст.426 УК Республики Беларусь. Обвиняемый признан виновным в умышленном совершении должностным лицом действий, повлекших причинение существенного вреда правам и законным интересам граждан, государственным и общественным интересам (превышении власти или служебных полномочий), совершенном из корыстной и иной личной заинтересованности, лицом, занимающим ответственное положение"*, - рассказали в пресс-службе.**

*Подготовил Антон ДУБОЛОМОВ.*

# АДУСЮЛЬ ПАКРЫХУ

**Пад гукі гімна цяпер трэба будзе глядзець на сцяг, інакш - штраф.** Вядома, шукаць бліжэйшы ў поле зроку дзяржсцяг не трэба. Але вось калі падчас урачыстай цырымоніі загучаў гімн і сцяг лунае непадалёк, да яго трэба павярнуцца тварам. Такую норму прапісалі ў законе пра дзяржаўныя сімвалы Рэспублікі Беларусь, за які ў першым чытанні прагаласавалі дэпутаты беларускага парламента. Згодна гэтага закону, калі беларус не павернецца ў патрэбны бок ці не ўстане падчас выканання гімна, то ўзнікае адміністрацыйная адказнасць за непаважлівае стаўленне і за здзеку над дзяржсімваламі, якая пацягне за сабой пакаранне ў выглядзе штрафу да 5 базавых велічынь.

24-летний житель Ошмян приехал в Сморгонский район с другом, чтобы выпить пару бутылок алкоголя.

*«Употребив алкоголя, молодой человек отправился искать приключения и нашел их возле одной из автомобильных стоянок. Используя находившийся при себе пневматический пистолет, он несколько раз выстрелил из него в сторону «Фольксваген Каравелла» с российскими номерами, из-за чего в машине посыпалось заднее стекло. После этого парень поспешил скрыться. Вскоре вернувшийся на стоянку собственник автомобиля обнаружил повреждение и обратился в милицию. Преступление удалось раскрыть «по горячим следам»*, - сообщили в Сморгонском РОВД Уголовное дело возбуждено по статье «хулиганство». Задержав подозреваемого и изъяв у него пистолет, правоохранители исключили возможность его использования в других ситуациях.

**Кошт долара ў Беларусі перасягнуў псіхалагічную мяжу.** Афіцыйны курс амерыканскай валюты на 3 снежня, склаў 10 820 рублёў. “Хоум Крэдыт Банк" тым часам прадае даляры па 11 тысяч рублёў, ўпершыню дасягнута гэтая псіхалагічная мяжа. Гэта самы нявыгадны курс у краіне, але і астатнія банкі непадалёк. Напрыклад, у "Беларусбанку" курс продажу даляра ў цэнтральным офісе складае 10 930 рублёў, аднак у некаторых раённых аддзяленнях ён дасягае 10 980 рублёў. За такія грошы, напрыклад, можна набыць у абменніках Магілёўшчыны - у Хоцімску, Дрыбіне, Глуску. Па дадзеных Нацыянальнага банка краіны, падзенне беларускага рубля з пачатку года склала 2,46% да еўра і 12,92% да долара.

**В начале декабря по Финляндии в соцсетях распространилось объявление о забытых в одном из банкоматов города Лахти банкнотах.** Деньги обнаружила Ханна Хукка, она и опубликовала объявление в соцсети «Фейсбук». Денег было немного — всего несколько десятков евро, но девушка решила, что и такая сумма может быть для кого-то важной: *«Я подумала, это могут быть последние деньги молодого человека. Или пожилого, который сможет на эту сумму купить себе еды на несколько раз».*

Объявление собрало сотни перепостов и около десяти тысяч «лайков». По мнению многих, девушка проявила образцовую честность. Вечером объявление увидел и забывчивый владелец денег — Йоонас Микаел Кивиойя. *«Я подумал, что либо потерял их, и могу винить только себя, либо забыл их в банкомате. Нашедшей деньги девушке я сказал: как хорошо, что есть на свете такие люди, как она. Я очень ценю этот поступок»*, - сказал Кивиойя.

В Финляндии это далеко не первый случай, когда утерянные деньги, в том числе и крупные суммы, находят своего владельца благодаря сознательности граждан и социальным медиа.

Известный российский писатель Михаил Веллер считает, что Кремль не сможет захватить Беларусь, если этому вопротивится белорусский президент Александр Лукашенко. Такое мнение он высказал в эфире программы "Особое мнение" на радиостанции "Эхо Москвы".

***"Мне понравилось заявление Лукашенко, и белорусам оно тоже понравилось, - что если хоть один сапог, хоть всё равно какого оккупанта ступит хоть на один метр земли Беларуси, мы будем воевать всеми силами. Хорошее заявление"*, - считает Михаил Веллер.**

По его словам, несмотря на то, что нынешний провитель Беларуси - *"антидемократ, он диктатор, он вообще не дает дышать свободе"*, писателю нравятся его заявления относительно независимости страны.

Отвечая на вопрос ведущей по поводу имеющей возможности Беларуси противостоять внешней угрозе, Михаил Веллер ответил, что ***"если кто-то вцепляется зубами, то получается зимняя война с Финляндией, - слишком дорого обойдется"***.

***"Таким образом, если Батька упрётся, я не думаю, что Россия всосала бы Беларусь. Хотя уже давно большой российский бизнес хочет поглотить всё хорошее, что в Беларуси есть. А вот Батька - диктатор, не дает"*, - резюмировал писатель.**

*Падрыхтаваў*
*Антон ДУБАЛОМАЎ.*

ОТОВСЮДУ ПОНЕМНОГУ

Магілёўскі ВЫБАР

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Адрас рэдакцыі: 213155, Магілёўская вобласць, Магілёўскі раён, в.Брылі, вул.Юбілейная, 6-7. Тэл. 8-0222-710451
E-mail: mikolabryl@gmail.com. Выдавец Яцкова Ала Міхайлаўна. Наклад 299 асобнікаў. Фармат А-4. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 4.12.2014 г. у 10.00.